# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Цана асобнага нумару 800 м. п

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3000 м.п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 800 мк., сярод тэксту 600 мк. і на 4 стрніцы 400 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

№ 11 | Пятніца 11-га траўня 1923 г. | Год I.


## Што гэта значыць?

Нязвычайна цяжкое палажэньне беларускіх працоўных масаў у межах Польшчы дзеляць з імі ня толькі другія „інародцы“, але і масы польскага працоўнага народу. Розьніца адно толькі ў тым, што у беларусаў, украінцаў і др. да уціску палітычнага і сацыяльнага далучаецца уціск нацыянальны.

Даволі пераглядзець які-колечы нумар работніцкіх газэт, даволі прачытаць гарачыя пратэсты процi утварыўшагася ў Польшчы палажэньня, даволі пазнаёміцца з лёзунгамі і клічамі польскіх сацыялістаў, каб пераканацца ў гэтым. Дый іначай у буржуазна-паліцэйскім гаспадарстве, створаным пад дыктоўку вялікіх буржуазных дзяржаваў Эаходу, быць не магло.

Польская Партыя Сацыялістаў (Pols. Part. Soc.) вядзе польскі пралетарыят на барацьбу за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту, за „rzad robotniczo-włościanski“. Не зачапляючы тут пытаньня аб правільнасьці, ці няправільнасьці *тактыкі* гэнае партыі, якая ў вялікай меры йшчэ пранікнута дробна-мяшчанскімі і нацыяналістычнымі перажыткамі, трэба сказаць, што да *лезунгу* партыі далучаюцца ўсе уціснаныя, далучаюцца і беларускія працоўныя масы, бо беларускі народ--гэта-ж пераважна народ-працаўнік, народ, які толькі пры сялянска-работніцкім урадзе можа спадзявацца для сябе вызваленьня з сучасных путаў.

У Польшчы, якая дагэтуль яшчэ не перажывала рэвалюцыі, ня гледзячы на блізкае суседзтва Савецкіх Рэспублік, пабудаваных на чыста-рэвалюцыйных асновах,— пагроза перамены ўлады нязвычайна трывожыць буржуазію, якой стаяць уваччу крывавыя расейскія падзеі. І польскія буржуазныя партыі з аслаўленай „хіенай“ наперадзі, ня сьпяць ад страху за будучыну. Яны ўжо вядуць торг з Вітасам і „пястоўцамі“, гатовыя дзяліцца ўладай з сялянамі-кулакамі, каб толькі не дапусьціць да утварэньня ўраду, абапертага на салідарнасьці работнікаў і працоўнага сялянства. Але гэтым дзейнасьць „хіены“ і эндэкаў не абмяжоўваецца.

Ворагі работніцка-сялянскага ўраду разумеюць, што ў барацьбе польскага пралетарыяту за ўладу з ім поплеч стануць і працоўныя масы няпольскае нацыянальнасьці. І вось эндэцка-хіенская прэса, памятуючы стары палітычны прынцып „divide et impera“ (дзялі і пануй), пачалі шырокую правакацыйную работу, маючы на мэце фальшывымі весткамі падбіць да гвалтоўных выступленьняў зусім не падгатаваныя да гэтага беларускія працоўныя масы, рахуючы на тое, што выступленьняў такога-ж характару з боку польскага пралетарыяту ждаць у блізкім часе нельга. Мала таго: выдумляючы, быццам беларускія паслы пастанавілі зрабіць паўстаньне, і пашыраючы гэткую вестку сярод беларускіх масаў (гл. „Dziennik Wileński“ № 94 з 20 красавіка г.г.) эндэцка-хіенскія газэты заяўляюць, быццам гэтыя выдуманыя імі паўстаньні скіраваны проці польскага народу, проці польскіх сялян і работнікаў. Так, правацыруючы паўстанчаскія выбухі, нашы ворагі стараюцца загадзя прыгатаваць грунт да таго, каб рукамі польскага працоўнага люду, гэтага натуральнага нашага саюзьніка, заліць крывёй Беларусь і гэтак аслабіць вагу беларускіх працоўных масаў на той мамэнт, калі патрэбна будзе, аб'яднаньне ўсіх працаўнікоў у межах Польшчы незалежна ад іх нацыянальнасьці.

Ведама друкаваньнем фальшывых пастановаў паслоў нашых, быццам ужо настаў час дзеля паўстаньня, эндэцка-хіенскія газэты ня здолеюць дайсьці сваей мэты ў поўнай меры. Яны могуць хіба толькі зусім несьвядомых людзей справацыраваць да аружнага выступленьня бяз ніякае арганізацыі і пляну. Беларускі народ, які паслаў сваіх паслоў у польскі Сойм і Сэнат, будзе пакуль цярпліва чакаць вынікаў працы сваіх прадстаўнікоў. І мы-бы не зварачалі асаблівае ўвагі на правакацыю польскіх панскіх наймітаў, калі-б не адна акалічнасьць: польская ўлада, ведаючы так-жа добра, як і мы, цану эндэцкіх вестак аб беларускім паўстаньні, зусім *не перашкаджае шырэньню гэтых вестак.*

*Што гэта значыць?*

**Паўрыновіч.**

## Палітычныя падзеі.

**Рурскі басэйн.** Ненармальнае палажэньне ў гаспадарчым жыцьці Эўропы, якое вытварылася акупацыяй Рурскага басэйну, заплютываецца ўсё болей. Здавалася, што імпэрыялістычная ўрады зразумеюць небясьпеку далейшага зацягіваньня вузла і знайдуць нейкі кампрамісны выхад. Нямецкі ўрад зрабіў прапазыцыі саюзным урадам, што ён гатоў распачаць перагаворы аб рэпарацыйных сплатах, акрэсьляючы суму гэтых сплат у 30 мільярдаў залатых марак і ставячы варункам эвакуацыю ўсіх непраўна акупаваных абшараў, без чаго Нямеччына ня можа наладзіць свайго гаспадарчага жыцьця, а разам з тым і плаціць вымагаемыя саюзьнікамі сумы. Але Францыя разам з Бэльгіяй і на гэты раз занялі непрымірымую пазыцыю. Яны ня згаджаюцца на эвакуацыю, пакуль Нямеччына ня выплаціць ўсіх сплат, суму якіх Пуанкарэ вызначае ў 132 мільярды залатых марак. Такім чынам трудна спадзявацца, што і на гэты раз дойдзе да паразуменьня. А тым часам сытуацыя ў акупаваных абшарах усё абастраецца. Акупанты павялічываюць жорстцасьць рэжыму, а люднасьць ня пакідае спраціву: выпадкі забойства францускіх і бэльгійскіх жаўнераў, узрыву мастоў, жалез. дор., падпаліваньня таварных складаў, вызначаных для вывазу, спатыкаюцца ўсе часьцей і часьцей. Рурская авантура паказала ў поўнай меры пяудольнасьць буржуазных урадаў вывясьці Эўропу з таго тупіку, ў якім яна аказалася пасьля сусьветнай вайны. Разьвязаць гэтыя пытаньні можа толькі арганізованая сіла працоўных мас.

**Нямеччына.** У Мюнхене зноў дашло да крывавай стычкі паміж баварскімі фашыстамі і соцыялістамі, шмат асоб паранена. З гэтай прычыны апошняе паседжаньне баварскага сойму насіла бурны характар. У Саксоніі зноў насьпевае урадовы крызыс. Правыя сацыялісты маюць замер выйсці з цяперашняга сацыялістычна камуністычнага ўраду і шукаюць паразуменьня з дэмакратычнымі буржуазнымі партыямі,

**Лазанская канфэрэнцыя** пакуль што ня дала ніякіх вынікаў. Туркі занялі непрымірамые становішча адносна эканамічных вымаганьняў Францыі і Англіі, аддаючы канцэсіі амэрыканцам і пагражаючы канцантрацыяй войск у Сырыі.

**Італія.** Фашыстоўскі ўрад Мусоліні пастарому душыць рэпрэсыямі работніцкі рух „Tribuna“ паведамляе, што ў Італіі за час ад кастрычніка звольнена са службы 70.000 жалез.-дарож. служачых. Да канца годубудзе звольнена яшчэ 30.000, а таксама будзе зьменшана плата застаўшымся працаўнікам.

**Літва.** Гальванаўскас выслаў да сэкратара Рады Лігі Нацый ноту, каб Рада на найбліжшымі паседжаньні разглядзела: 1) пратэст Літвы проціў прызнаньня Радай паслоў усходніх межаў Польшчы, 2) пратэст Літвы проціў рапарту Лігі Нацый аб падзеле нэйтральнай паласы і 3) справу адасланьня да Міжнароднага Трыбуналу ў Газе літоўскіх тэзысаў, упаважняючых Літву распачаць ваенныя шагі проціў Польшчы з прычыны падзелу нэйтральнай паласы.

**Польшча.** Справа „polskiej wienkszości“ дагэтуль яшчэ ня вырашылася аканчальна. Прычынай зьяўляецца, што абшарнікі з групы Дубановіча нё згаджаюцца ні ў якім выпадку нават на тую карыкатуру зямельнай рэформы. якой дамагаюцца Пястоўцы. Ды і ў самай партыі „Пяст“ істнуе моцная апазыцыя на чале з п. Донбскім. На адбыўшайся канфэрэнцыі Варшаўскай арганізацыі Пястаўцаў ухвалена вотум даверыя Донбскаму і рэзалюцыя проціў саюзу в Хьенай.

## Водгульле з вёскі

Вялікая Эўрапэйская вайна неміласэрна пакрыўдзіла наша сялянства, зьнішчыўшы яго дамову і будыніну. Цяпер жывець з сям'ёй такі рабачай вясковы ў сырых зямлянках, і каб не памерці з голаду, ходзіць на мізэрныя зарабаткі да спэкулянта лесам ды кладзець покатам таўшчазарныя дрэвы, толькі не сабе на хату, а заграніцу. Той-жа рабачай хадзіў калісь у царскія часы пракладаць сярод пушч і балот чугунку, паякой вывозіўся гэты лес і ездзюць паны і як казаў Багушэвіч: „усе з мужыцкай цяжкай працы, усе едуць у палацы; ў мужыка няма білета—ці-ж ня дурань мужык гэта?“ Да гэтай працы перш падганяў яго валагодзкі ці тульскі жандар, а цяпер галіцыйскі ці пазнанскі.

У расейскіх школах вучылі, што „кнутъ“ гэта ёсьць пуга, а ў польскіх— што пуга гэта „бат“. Усё беларускае роднае забіваецца, топчыцца і беларус ня можа пряявіць сваю жыцьцёвасьць, грамадзкай ініцыятывы. Перш „апекаваліся“ беларусам Мураўёвы, Сталыпіны і іншыя людаеды, а цяпер Карфантыя, Лютаслаўскія і ўсе без выключэньня вшэхпалякі.

Ува ўсякай барацьбе патрэбны моцныя, стойкія барацьбісты. Наш найстрашнейшы вораг гэта — цемната. А ў нас так робіцца, што цэлыя гміны астаюцца без школ і цэлае пакаленьне расьце няпісьменным, цёмным і, жывучы пры хваравітых сацыяльных абставінах, аддаецца пьянству і распусьце, якіх яшчэ на Беларусі ня было.

Жудасна глядзець, што робіцца на нашай вёсцы.

Пасьля доўгай атсутнасьці школы зьявіўся ўрэшце ў нашу вёску вучыцель. Але не здалеў распакавацца, як ужо завярнуў аглоблі і наўцёкі. Прочкі сваё тлумачыў тым, што бяз „пана Бога“ ня можа жыць, бо касьцёла ў вёсцы няма. Праз якісь час дачакаліся вучыцелькі, якая стала праклінаць Беларусь, бо на ёй нудна жывецца, а людзі тут, як быдлё толькі не хапае хваста і рогаў. У хуткім часе і гэтая „піанерка“ зьнікла.

Ма быць каб не сумавалі былі назначаны яшчэ дзьве вучыцелькі, якія пачалі з таго, што аблажылі ўсіх дзяцей „данінай“: бульба, капуста, сала і т. д. Дзеці зносілі усё, спадзяючыся ў адплату атрымаць духовую страву. Але дарма іх надзея, бо мала інтэлігэнтныя вучыцелькі прымаюць за аснову навучаньня гісторыю аб каралях польскіх і каталіцкую рэлігію. Усё гэта як чужое і непатрэбнае, асабліва праваслаўным дзецям, зусім не прывіваецца—тады ідзе ў ход „дзеравяная“ дысцыпліна: лінейка, мэтр і т. д.

Адсутнасьць мэтадычнасьці і пэрыадычнасьці вызываець у дзяцей нялюбоў да некаторых прадметаў і неахвоту да навукі.

Калі падняліся пратэсты на такія срэднявечныя мэтады навучаньня, дык вучыцелька, як гэта цяпер усімі і ўсюды практыкуецца, пачала рабіць даносы на пратэстуючых, абвінавачваючы іх у беларускасьці, бальшавізме і т. д. І яе даносы маюць вагу, бо яна стаіць на стражы польскасьці на „kresach“. А калі яе папрасілі устроіць вячэрнія курсы польскай мовы, дык спачатку патрэбавала дужа вялікую плату, а пасьля адмовілася, бо ясна нічога супэльнага з „хамамі“ ня хоча мець.

Цяпер некалькі слоў аб нашай адміністрацыі вясковай.

Жывець, напрыклад, у нас войт пан Хоміцкі. Пануе ён тут на ўсю аколіцу і як кажуць цар і Бог. Калі захоча каго звольніць ад вайсковай службы дык звольніць з тым варункам, каб той у яго праслужыў парабком дарма колькі гадоў. «Заслуг» войта усіх не пералічыш, як кажуць, валовай скуры ня хопіць, усе іх сьпісаць. Раскажу аб адным выпадку. Прошлай вясной зьбіралі даніну і было аб'яўлена, што з бежанцаў даніна ня будзе брацца. Але вось прыехаў з войтам якісь чын і давай поўзаць па хатах ды адбіраць у нешчасных астаткі з хаткі; у каго падушку, у каго кажух ці што іншае. А калі хто прабаваў заікнуцца аб аб'яўленьні дык зборшчыкі з лаянкамі пачыналі біць нявінных.

Той-іншы прабаваў жаліцца вышэйшаму начальству, але жалабы адлеталі як гарох ад сьценкі. І войт ужо тры гады сядзіць без перавыбараў і кпіць з вобшчаства, якое некалькі разоў за самавольства вайта хацела зрабіць перавыбары.

Адным словам, на беднага Макара ўсе шышкі валяцца, а як доўга ён будзе цярпець залежыць ад яго самога.

К. З. і Ф. К.

## ПОЛЬСКАЯ СТАТЫСТЫКА.

„Główny Urząd Statystyczny“. даець даныя аб складзе нацыянальным і рэлігійным жыхароў „крэсаў“ у ваяводствах; Валынскім, Палескім, і Навагрудзкім і у 4-х паветах Дзісьненскім, Браслаўскім, Дунілавецкім і Вялейскім. Усяго насяленьня 3.613.505 з гэтага ліку палякаў 1.119.864 каталікоў 758.290. Згодня з гэтай статыстыкай выходзіць, што беларусаў каталікоў зусім няма. але ёсьць палякі праваслаўныя — усё злосная хвальш і грубая фікцыя.

Гэткая статыстыка нямае ані якай вартасьці для навукі і нічога ня кажа аб складзе насяленьня, а толькі атэстуе патрыятычную сьвядомасьць перапішчы-

